# наша свабода

№96(183) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 ВЕРАСНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Кандыдат, які баіцца



Фота Ул.ШЛАПАКА

4 верасня ў Палацы Рэспублікі, што на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, кандыдат на прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка ладзіў паказальную сустрэчу са сваімі выбаршчыкамі. У той самы час сюды прыйшлі болей паўсотні чалавек, каб ланцужком неабыякавых людзей з партрэтамі ў руках бясследна зніклых у Беларусі асобаў стаць перад прывезенымі сюды на аўтобусах з усёй краіны прыхільнікамі А.Лукашэнкі. Сярод апранутых у майкі з надпісам «Хочам ведаць праўду» людзей стаялі лідэр АГП Анатоль Лябедзька, намеснік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык, жонка Генадзя Карпенкі Людміла.

Вакол «жывога ланцуга» адразу ж паўсталі брытагаловыя асобы ў цывільным. Усе спробы ўдзельнікаў акцыі наблізіцца да Палаца Рэспублікі імі гвалтоўна спыняліся. У той час выходзячыя з «Ікарусаў» людзі рушылі на сустрэчу з А.Лукашэнкам без усялякіх перашкодаў.

Тое, што адбылося 4 верасня на Кастрычніцкай плошчы каля Палаца Рэспублікі і непадалёк прэзідэнцкай рэзідэнцыі, яшчэ раз паказала, як цяперашні рэжым рэагуе на патрабаванні расследавання знікненняў прапаўшых без вестак людзей. А таксама тое, чаго вартыя так званыя сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з выбаршчыкамі. Гэтыя сустрэчы ненатуральныя і пастановачныя. Лукашэнка па ўсім баіцца бачыцца і гаварыць з вольнымі людзьмі. Гэтаксама ён баіцца свабоднага волевыяўлення народа на прэзідэнцкіх выбарах 9 верасня.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Министерству Юстиции Республики Беларусь

В конце августа нашим партнерам из Беларуси – Общественному объединению «Правозащитный центр «Вясна» вынесено сразу два предупреждения. Это означает, что над существованием «Вясны» нависла реальная угроза немедленной ликвидации.

Мы считаем, что это давление на «Вясну» связано с неизменной позицией организации по защите прав человека в Беларуси и активном участии в кампании «Независимое наблюдение». «Вясна» является одной из самых авторитетных правозащитных организаций в Беларуси. Закрытие «Вясны» означает, что в Беларуси станет меньше еще на одну организацию, которая занимается оказанием реальной помощи людям, чьи права были нарушены.

Мы высказываем свой протест в связи с решением Министерства Юстиции. Мы обращаемся к вам с просьбой отозвать свое решение или приостановить его действие. И дать время и возможность «Вясне» доказать безосновательность вынесенных организации предупреждений.

**С уважением,**
**Енс ПЕТЕРССОН**
**Генеральный Секретарь**
**Шведское Общество Мира и Арбитража (Svenska Freds)**

## Назіральнікі прыедуць 9 верасня

У дзень прэзідэнцкіх выбараў — 9 верасня — чакаецца прыезд у Беларусь каля 215 кароткатэрміновых назіральнікаў і 79 парламентарыяў. Усе яны далучацца да місіі па абмежаваным назіранні Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, якая ўжо працуе ў Беларусі. 1 верасня група членаў місіі па абмежаваным назіранні БДІПЧ АБСЕ на чале з Хаірам Бальянам наведала мемарыяльны комплекс «Хатынь». Яны ўшанавалі памяць беларусаў, стаўшых ахвярамі Другой сусветнай вайны.

## Настаўніцкія галасы на выбарах

Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры мазырскіх школаў атрымалі на гэтым тыдні ад Маладога Фронту аўдыёкасеты «Легенды Вялікага Княства», «Я нарадзіўся тут», «Народны альбом» і паштоўкі з бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоняй» з падзякай за іхнюю працу і са зваротам абраць 9 верасня ўладу, «якая разумее: ад настаўнікаў залежыць будучыня нацыі». Цяпер, гаворыцца ў звароце, «больш за 70% маладых адукаваных людзей хочуць з'ехаць з Беларусі. Адукаваны чалавек дзяржаве непатрэбны. 150 тысяч выкладчыкаў у Беларусі жывуць за мяжой беднасці».

## Дэсантнікі на канцэрце

2 верасня ў ДК прафсаюзаў Брэста перад канцэртам гуртоў «N.R.M.» і «Нейродюбель» тых, хто прыйшоў паслухаць музыку і патаньчыць, пры ўваходзе ў залу правяралі, у тым ліку дэсантнікі 38-ай асобнай мабільнай брыгады Брэсцкага гарнізона. Асаблівы акцэнт быў зроблены на адыманне ў моладзі перадвыбарнай атрыбутыкі.

## Прапаганда талерантнасці

Прадстаўніцтва ААН у Беларусі праводзіць у Беларусі з 31 жніўня па 7 верасня інфармацыйную кампанію, прысвечаную Сусветнай канферэнцыі па барацьбе супраць расізму, расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі, што праходзіць у паўднёваафрыканскім Дурбане. Мэта – прыцягнуць увагу людзей да праблемаў гандлю людзьмі, становішча ўцекачоў, стаўлення да нацменшасцяў і карэнных народаў.

## Санкцыі супраць энергазлодзеяў

З пачатку гэтага года каля 10 тысяч спажыўцоў былі адключаныя ад сетак энергазабеспячэння. Гэтай санкцыі яны падвергліся з прычыны крадзяжоў энергіі. Усяго сёлета энерганагляднымі службамі канцэрна «Белэнерга» праведзена каля 15 тысяч спецрэйдаў па выкрыцці крадзяжоў электра-і цеплаэнергіі.

# А кто такая Элис и где она живет?

## *Как журналистка британской «Таймс» Элис Лагнадо подвигла министра иностранных дел Беларуси вызвать к себе посла США в Минске*

*В понедельник – день тяжелый, а на этот раз американский выходной по случаю Дня Труда, — посол США в Минске Майкл Козак вместе со всем посольством отдыхал от работы и даже не подозревал, что станет героем дня в британской «Таймс», на российском НТВ и в белорусской «Панораме».*

Московская корреспондентка «Таймс» Элис Лагнадо — человек левых взглядов, убежденная в том, что США проводят в Беларуси такую же политику империализма, как и в Южной Америке, — опубликовала 3 сентября статью под заголовком «США применяют «политику контрас» в коммунистической Беларуси».

Однако еще 26 августа агентство «Ю.С.Ньюс» сообщило, что американский посол в Минске Майкл Козак в своем письме в английскую газету «Гардиан» подтвердил определенную параллель между Никарагуа образца 1989-1990 годов и сегодняшней Беларусью. «Наша задача и в определенной степени методология те же самые. Тогда мы работали с сандинистскими властями, Организацией американских государств, другими странами региона и бывшим Советским Союзом, чтобы содействовать свободным, справедливым и прозрачным выборам. Сегодня мы работаем с Организацией по безопасности и сотрудничеству в Европе, Ассоциацией организаторов выборов в Центральной и Восточной Европе и государствами-членами ОБСЕ, включая членов Евросоюза, чтобы побудить белорусские власти создать какой-нибудь минимум доступа оппозиции к прессе и прозрачности процесса подсчета голосов», — написал М.Козак.

Эта цитата полностью вышла в предыдущий понедельник в белорусской независимой газете НАША СВАБОДА, и официальный Минск на нее никак не отреагировал. Элис же Лагнадо неделю спустя оставила от цитаты лишь первую фразу, и дописала, что в Никарагуа «США поддерживали контрас в войне против левого правительства сандинистов, которая унесла по меньшей мере 30 тысяч жизней». В лучших традициях советской журналистики корреспондентка «Таймс» не указала, что письмо М.Козака было адресовано в конкурирующую газету «Гардиан», — она употребила формулу «в письме в британскую газету».

И тут понеслось. Полуграмотные российские интернет-сайты и агентства решили, что М.Козак написал в саму «Таймс». Эту версию сразу же подхватило Белорусское телевидение, которое в своей «Панораме» в разоблачительном раже дошло до того, что сообщило букально следующее: никарагуанская война «принесла почти 300 тысяч жертв только среди гражданского населения». То есть количество смертей из статьи в «Таймс» завышено в 10 раз и подано как заниженная оценка. Справка «Ю.С.Ньюс»: все население Никарагуа составляло в 1993 году около 4 миллионов 300 тысяч человек.

Между тем «Панорама» продолжала: «Отдают ли себе отчет господа, спровоцировавшие ту войну, на какие циничные и ужасные шаги они толкают местную белорусскую оппозицию, когда оказывают ей финансовую и политическую поддержку, существование которой так убедительно – со ссылкой на американского дипломата – доказывает газета «Таймс»?»

*Окончание на стр.3*

## Пісьмовае папярэджанне Уладзіміру Ганчарыку

Цэнтрвыбаркам вынес пісьмовае папярэджанне кандыдату ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміру Ганчарыку за парушэнне выбарчага заканадаўства падчас агітацыі. Такое рашэнне прынятае 3 верасня на паседжанні ЦВК.

Асноўнае парушэнне выявілася ў тым, што ў будынку Магілёўскага абласнога камітэта Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, дзе месціцца рэгіянальны штаб Ганчарыка, была затрыманая партыя (3 тысячы) спецыяльна вырабленых маек з надпісам «Скажы дурню «не». ЦВК палічыў гэты надпіс яўнай агітацыяй, не ўдакладніўшы, «за» або «супраць» каго яна накіраваная.

Акрамя таго, у віну Ганчарыку ставілася распаўсюджванне не аплачанай Цэнтрвыбаркамам агітацыйнай друкаванай прадукцыі, размяшчэнне яе ў неналежных месцах, а таксама парушэнне парадку сустрэчаў з выбаршчыкамі. Яно выявілася ў невыкананні камандай Ганчарыка закона аб правядзенні мітынгаў, дэманстрацыяў, вулічных шэсцяў і пікетавання. Размова, у прыватнасці, ідзе аб правядзенні кандыдатам і яго даверанымі асобамі несанкцыяваных сустрэчаў з выбаршчыкамі на вуліцах. Апошняя такая сустрэча адбылася 2 верасня на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.

Як паведаміў БелаПАН сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік, папярэджанне — гэта ўсяго толькі «прэвентыўная мера». Паводле яго словаў, нават атрыманне Ганчарыкам яшчэ аднаго папярэджання не абавязкова пацягне адмену яго рэгістрацыі кандыдатам. «Першы раз мы разглядалі скаргу на Ганчарыка тыдзень таму і абмежаваліся тлумачэннямі, сёння вынеслі папярэджанне. Але гэта не азначае, што на трэці раз будзе абавязкова зняцце: магчыма і другое папярэджанне, і трэцяе», — сказаў сакратар Цэнтрвыбаркама. Аднак, паводле яго словаў, ствараецца ўражанне, што Ганчарык «спецыяльна правакуе Цэнтрвыбаркам на прыняцце нейкіх жорсткіх мераў». «Нам бы не хацелася абвастраць адносіны. Мы паважліва ставімся да ўсіх трох кандыдатаў і аднолькава сочым за выкананнем заканадаўства іх штабамі», — падкрэсліў Мікалай Лазавік. Пры гэтым ён адзначыў, што ЦВК у чарговы раз паступіў у дачыненні да Ганчарыка лаяльна. У камісіі гучала прапанова адмяніць яго рэгістрацыю. Аднак пры галасаванні большасць членаў ЦВК вырашыла абмежавацца вынясеннем Ганчарыку пісьмовага папярэджання, сказаў Мікалай Лазавік.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН**

## Новая сістэма дарожных збораў

На прадпрыемстве «Агат-сістэм» распрацоўваецца новая камп'ютэрна-касавая сістэма дарожных збораў. Гэтая навінка дасць магчымасць браць плату за праезд у залежнасці ад класа машыны. Плануецца, што новая сістэма будзе ўсталяваная на памежным пераездзе «Рэдзькі» аўташашы Брэст—мяжа Расійскай Федэрацыі.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1470**

## Студэнцкі супрацiў датэрміноваму галасаванню

Незарэгістраваная арганізацыя «Малады Фронт» сумесна з іншымі маладзёжнымі арганізацыямі дэмакратычнага кшталту арганізуе студэнцкі супраціў датэрміноваму галасаванню.

Лідэр МФ Павел Севярынец паведаміў пра намаганні кіраўніцтва вышэйшых навучальных установаў Беларусі выганяць студэнцтва на датэрміновае галасаванне. «Вядома, што рэжым збіраецца за кошт датэрміновага галасавання забяспечыць асноўную масу фальсіфікацыяў – такія факты ўжо ёсць. У найбуйнейшых ВНУ краіны прызначылі выхадныя: у Белдзяржуніверсітэце – 7-9 верасня, у Беларускім універсітэце культуры – з 6 па 12. Кожны дэкан атрымаў інструкцыю вельмі мякка папрасіць студэнтаў праехаць дахаты, тым больш што праезд бясплатна забяспечваецца (паводле ўказа А.Лукашэнкі, з 1 па 30 верасня студэнты ВНУ маюць права бясплатнага праезду. – **Рэд.**)», – заявіў Павел Севярынец.

Шэраг маладзёжных арганізацыяў, у тым ліку МФ і «Зубр», арганізавалі камітэт студэнцкага супраціву, які «будзе арганізоўваць выезды аператыўных групаў – калі кіраўніцтва ВНУ будзе выганяць студэнтаў на датэрміновае галасаванне». У буйнейшых ВНУ Мінска – Белдзяржуніверсітэце, Беларускай дзяржаўнай педагагічнай акадэміі і ў інтэрнатах Лінгвістычнага універсітэта – вывешаныя круглясутачныя пасты.

**Аддзел інфармацыі**

СІЛАВІКІ

## Напады людзей у цывільным

Агітатары, якія прадстаўляюць апазіцыйныя сілы Беларусі, падвяргаюцца шматлікім нападам. Так, 2 верасня каля 17 гадзінаў у раёне станцыі метро «Пушкінская» ў Мінску некалькі «скінаў» (прадстаўнікоў нефармальнай радыкальнай групоўкі) напалі на перадвыбарны пікет у падтрымку адзінага кандыдата ад апазіцыі Уладзіміра Ганчарыка. Завязалася бойка, у якой двое ўдзельнікаў пікета – мужчына і дзяўчына – атрымалі цялесныя пашкоджанні. Бойка была спыненая супрацоўнікамі міліцыі. Двое нападаўшых былі затрыманыя.

2 верасня ў Баранавічах быў здзейснены напад на члена Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ Яўгена Далгіновіча. Пра гэта паведамляе прэс-служба партыі. Я.Далгіновіч раздаваў у цэнтры Баранавічаў перадвыбарныя ўлёткі і трымаў плакат: «Беларусы, вас зацягваюць у маскоўскую пастку. Галасуйце супраць усіх і толькі 9 верасня!». На апазіцыянера накінуліся людзі ў цывільным, кінулі ў машыну і даставілі ў гарадскі аддзел міліцыі. Людзі ў цывільным аказаліся супрацоўнікамі міліцыі. Допыт Далгіновіча праводзіў старшы лейтэнант Кандратчык. На аргументы апазіцыянера наконт таго, што ён дзейнічае ў рамках перадвыбарнай агітацыі, супрацоўнік міліцыі заявіў, што міністр Навумаў даў загад затрымліваць тых, хто заклікае галасаваць супраць усіх кандыдатаў. Пасля таго як Далгіновіч напісаў тлумачэнне, яго даставілі ў КДБ, дзе правялі размову. Пасля гэтага ён быў адпушчаны.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Дыскатэка «за бацьку» і наёмныя агітатары

Гродзенскія ўлады наладзілі 1 верасня беспрэцэдэнтную па маштабах пагулянку для моладзі. Галоўным яе матывам стала – «прагаласуй за бацьку!» Па дадзеных арганізатараў, у мерапрыемстве ўдзельнічала 57 тысяч чалавек.

Хаця было цёмна і дакладна падлічыць колькасць публікі не ўяўлялася магчымым, але на яе сапраўды сабралася многія тысячы. Цэлых пяць гадзінаў быў перакрыты рух транспарту ў цэнтры горада, маршруты аўтобусаў і тралейбусаў – зменены. Улады разам з БПСМ і БСМ абвясцілі «маладзёжную дыскатэку» на Савецкай плошчы. Быў збудаваны памост, з якога грымела музыка і ды-джэй радыё Бі-Эй заклікалі – «9-га верасня – прэзідэнцкія выбары. Прагаласуем за бацьку!»

На наступны дзень на памосце выступілі грамадзяне Расіі – ансамбль «Руская песня» на чале з Надзяй Бабкінай. Бабкіна заклікала яшчэ мацней – галасуйце за Лукашэнку, калі не хочаце зноў жыць пры капітулізме... З заміланнем паведаміла, што Лукашэнка «даў ёй пуцёўку ў жыццё», запрасіўшы на «Славянскі базар». Замежная агітатарка за Лукашэнку шчыра прызналася, што прыезд у Гродна ёй зафундавалі гарадскія ўлады.

Дарэчы, калі перад гэтым у Гродна прыязджаў Уладзімір Ганчарык, яму не дазвалялі выступіць на пляцы гарадскія ўлады. І забаранілі спяваць вядомаму беларускаму спеваку Яраславу Еўдакімаву, які падтрымлівае адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Наклейкі БПСМ лёгка здзіраюцца

У Гомелі мясцовыя структуры Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ) пачалі расклейваць улёткі ў падтрымку дзеючага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Улёткі – каляровыя, яны ўпрыгожаныя лозунгамі «Час прыбіраць» і «Час выбіраць», якія выкарыстоўвае апазіцыя, але праілюстраваныя калажам, які супрацьпастаўляе дасягненні сучаснай Беларусі жахам фашысцкай Германіі.

Як патлумачыла БелаПАН першы сакратар Гомельскага гарадскога камітэта БПСМ Маргарыта Хадзічэнка, рашэнне аб выпуску такіх наклеек прыняло кіраўніцтва саюза, «мабільна адрэагаваўшы» на дзеянні апазіцыі па роспісе будынкаў антыдзяржаўнымі лозунгамі. Дзеянні БПСМ па супрацьстаянні апазіцыі Маргарыта Хадзічэнка назвала «барацьбой». У той жа час лідэр гомельскай структуры БПСМ лічыць, што іх наклейкі, нягледзячы на вялікую колькасць, горшыя якасцю, чым апазіцыйныя: «яны лёгка здзіраюцца». Паводле словаў Маргарыты Хадзічэнка, для друкавання наклеек БПСМ выкарыстоўвае як спонсарскія, так і ўласныя «зэканомленыя» сродкі.

**Ірына ШАНЦАВА**

ЛЮСТРАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

Маці салдатаў, забітых у арміі падчас службы, пераадзетыя «сілавікі» не пускаюць на сустрэчу з кандыдатам А.Лукашэнкам

## Міліцыя забірае прэзерватывы

У мінулую нядзелю ў Слоніме было ўчыненае паляванне моладзі. Міліцыя ўзмоцнена шукала кампраматy, але назапасіла прэзерватываў. Дзесяць асобаў правялі ў гэты дзень 2-гадзінны велапрабег па горадзе ў рамках кампаніі «Выбірай!» Ззаду хлопцаў ехаў на сваёй машыне Віталь Яшану, каб падстрахоўваць іх. Яго спынілі і загадалі ехаць у міліцыю, дзе абшукалі машыну. Праўда, без вынікаў.

У той жа дзень раніцай у краме некалькі чалавек у цывільным раптам схапілі журналіста «Газеты Слонімскай» Аляксея Гарайнава і Аляксандра Жукоўскага. Па дарозе ў міліцыю іх абшукалі. Забралі, між іншым, 12 пачак (па 3 у кожным) прэзерватываў з надпісам «Нацягні Яго!» Міліцыянты самі наляпілі налепкі, знойдзеныя ў хлопцаў, абвінаваціўшы ў гэтым затрыманых. Пратрымалі 3 гадзіны, склалі пратаколы, якія хлопцы падпісваць не сталі. Чакайце позваў – паведамілі ім «людзі ў пагонах».

У той жа дзень увечары ў парку міліцыянты спынілі трох хлопцаў, якія былі адзетыя ў «зуброўскія» майкі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

КУЛЬТУРА

## Спужаліся акта самаспалення

Не выключана, інфармацыя аб магчымым акце самаспалення стала прычынай затрымкі адкрыцця Дня беларускага пісьменства 2 верасня ў Мсціславі.

Як стала вядома БелаПАН, раніцай праваахоўныя органы атрымалі інфармацыю аб акце самаспалення, які нібыта рыхтуецца (па розных звестках, ад аднаго да трох маладых людзей) на вуліцы Кірава, па якой павінен быў праязджаць кіраўнік беларускай дзяржавы. Ён прыбыў у горад для ўдзелу ў святкаванні Дня беларускага пісьменства. Магчыма, у сувязі з атрыманнем такой інфармацыі адбыліся змяненні ў пачатку мерапрыемства, і цырымонія яго адкрыцця была перанесеная прыкладна на паўгадзіны.

**Марат ГАРАВЫ**



## Уцёкі з «валадаркі»

Ноччу 3 верасня ў Мінску былі прадухіленыя ўцёкі з будынка следчага ізалятара № 1 міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, размешчанага па вуліцы Валадарскага ў цэнтры горада.

Як паведаміў БелаПАН прэссакратар МУС Дзмітрый Партон, у 1.50 двое неадноечы судзімых зняволеных, праламаўшы сцяну камеры галоўнага корпуса, пранікнулі на рэжымную тэрыторыю следчага ізалятара. Затым, з дапамогай самаробнай вяроўкі, рэцыдывісты паспрабавалі ўцячы. Заўважыўшы гэта, вартавы, які стаяў на вышцы, адкрыў агонь на паражэнне і адзін з уцекачоў быў смяротна паранены, другому ўдалося збегчы. Адразу ж на месца здарэння прыбылі кіраўнікі міністэрства, следча-аператыўныя групы ГУУС Мінгарвыканкама і гарадской пракуратуры. Дзеянні вартавога прызнаныя правамернымі.

У мэтах затрымання рэцыдывіста, які збег, у Мінску быў тэрмінова ўведзены план «Сірэна». У 3.30 злачынцу затрымаў нарад дарожна-патрульнай службы ДАІ ГУУС.

Па факце дадзенага здарэння пракуратурай узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 413 ч. 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – «Уцёкі з месца пазбаўлення волі, з-пад арышту ці з-пад варты». Частка 2 гэтага артыкула прадугледжвае, што ўцёкі, ажыццёўленыя групай асобаў па папярэдняй змове, караюцца пазбаўленнем волі тэрмінам ад двух да сямі гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Цяга да адукацыі ёсць, жылля — няма

На думку старшыні Гомельскага гарвыканкама Леаніда Барабанава, «назіраецца цяга моладзі да адукацыі». Такую высноўку кіраўнік горада зрабіў 3 верасня на прэс-канферэнцыі, прааналізаваўшы вынікі мінулага навучальнага года і абітурыенцкай кампаніі.

Леанід Барабанаў паведаміў, што ў 2001 годзе 525 выпускнікоў закончылі школы з медалямі, тады як 6 гадоў таму падобных поспехаў дасягнулі толькі 380 чалавек. Акрамя таго, за апошнія 5 гадоў сярэдні конкурс у спецыяльныя навучальныя ўстановы і ВНУ вырас з 2 да 4 чалавек на месца. Разам з тым, сёлета ў школы прыйшло першакласнікаў на 1,4 тысячы менш, чым летась.

Адной з галоўных маладзёжных праблемаў Барабанаў называў незабяспечанасць жыллём. За першае паўгоддзе ў горадзе з'явілася 1.914 новых сем'яў, аднак за льготнымі крэдытамі на будаўніцтва жылля звярнуліся не больш за сто маладых сем'яў. Такую нізкую актыўнасць Леанід Барабанаў тлумачыць як складаным механізмам атрымання крэдыту, так і недасведчанасцю маладых людзей наконт таго, якую дапамогу можна атрымаць ад дзяржавы.

**Ірына ШАНЦАВА**

МОЛАДЗЬ

## За Ганчарыка нават камсамольцы

Цэнтральны Камітэт рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Ленінскі камуністычны саюз моладзі Беларусі» выступіў з заклікам да моладзі падтрымаць на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах Уладзіміра Ганчарыка.

Як паведаміў БелаПАН сакратар ЦК ЛКСМБ Дзмітрый Янэнка, рашэнне аб падтрымцы адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі прымалася пленумам арганізацыі, якая на сённяшні дзень аб'ядноўвае каля адной тысячы членаў і мае структуры ў кожнай вобласці рэспублікі. Беларускія камсамольцы перакананыя, што кандыдатура дзеючага прэзідэнта абсалютна непрымальная. «Абрушыліся шырока разрэкламаваныя «пражэкты» А.Лукашэнкі ў сферы дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, – гаворыцца ў заяве ЦК ЛКСМБ. – Не выконваецца праграма маладзёжнага жыллёвага будаўніцтва, мэтанакіравана ліквідуецца бясплатная адукацыя, адсутнічае рэальная падтрымка маладой сям'і, не знойдзеныя эфектыўныя метады барацьбы з наркаманіяй, злачыннасцю і іншымі негатыўнымі з'явамі ў маладзёжным асяроддзі. Дагэтуль не названа сапраўдныя вінаўнікі трагічнай гібелі маладых людзей на станцыі метро «Няміга».

«Замест таго, каб накіроўваць бюджэтныя сродкі на рэалізацыю сацыяльна значных праграмаў, павышэнне стыпендыяў, зарплаты, пенсіяў і дапамогаў, улада падкормлівае «маладую бюракратыю» ў асобе функцыянераў Беларускага патрыятычнага саюза моладзі», – канстатуюць беларускія камсамольцы.

**Аляксей АРЭШКА**

ЮСТЫЦЫЯ

## Амерыканцу далі 5 гадоў

3 верасня суд Цэнтральнага раёна Мінска прыгаварыў грамадзяніна ЗША, дырэктара беларускага прадстаўніцтва адукацыйнай праграмы *ACCELS* Чарльза Перыелу да 5 гадоў 3 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з частковай канфіскацыяй маёмасці. Дзяржаўны абвінаваўца прасіў суд прыгаварыць Перыелу да 6 гадоў пазбаўлення волі.

40-гадовы амерыканскі грамадзянін прызнаны вінаватым у незаконным набыцці і захоўванні наркотыкаў з мэтай збыту, учыненым паўторна (артыкул 328, частка 3 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь), а таксама ў схіленні да ўжывання наркатычных рэчываў (артыкул 331, частка 1 КК) і прадастаўленні памяшкання для ўжывання наркатычных сродкаў (артыкул 332, частка 1 КК).

Разам з тым суд палічыў недаказаным, што Чарльз Перыела ўдзельнічаў у групавых дзеяннях пры незаконным абароце наркатычных сродкаў. Выступаючы ў судзе з апошнім словам, Чарльз Перыела прызнаў сваю віну часткова.

Адвакат Чарльза Перыелы Алег Дубавец сказаў у інтэрв'ю БелаПАН, што прыгавор занадта суворым. Віну Чарльза Перыелы, лічыць адвакат, можна прызнаць толькі па частцы 1 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса – набыццё і захоўванне наркатычных рэчываў без мэты збыту і без паўторнасці злачынства.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Секс-меншасці адкрылі фестываль

Ноччу 3 верасня ў сталічным клубе «Вавілон» адбылося адкрыццё трэцяга гей-фестывалю «Беларус Гей Прайд-2001». Яго арганізатарамі выступілі «Беларуская ліга Лямбда» (БЛЛ), часопіс «Форум-Лямбда» і ўсебеларускі сайт геяў і лесбіянак «Апагей» пры падтрымцы аргкамітэта гей-прайда Стакгольма.

Як паведаміў БелаПАН старшыня аргкамітэта фестывалю Эдвард Тарлецкі, мерапрыемства адкрыў спецыяльны госць – паэт і мастак Адам Глобус, які адзначыў, што «геі праводзяць свой фестываль, нягледзячы на дыктатуру ў краіне, а гэта надзея на перамены да лепшага». У першую ноч фестывалю ў клубе выступілі стрыптыз-дуэт «*Candy Man*» (Мінск) і створаны Тарлецкім тэатр «Агітацыя і Прапаганда». На адкрыцці мерапрыемства, паводле словаў Тарлецкага, прысутнічалі каля 200 чалавек.

Старшыня аргкамітэта таксама паведаміў, што на фестываль не змаглі прыехаць госці са Швецыі, Галандыі, ЗША і Германіі, паколькі ім не ўдалося атрымаць візы ў свых краінах. Аднак чакаецца прыезд прэзідэнта аргкамітэта гей-прайда Стакгольма Матса Нордстрама, а таксама трох дэпутатаў парламента Швецыі, якія 7 верасня правядуць семінары на тэму «Арганізацыя гей-прайда: шведскі вопыт» і «Як член парламента можа змагацца за правы лесбіянак і геяў».

**Вольга АСІПЕНКА**

# А кто такая Элис и где она живет?

*Окончание, начало на стр.1*

Однако М.Козак писал не в «Таймс», а в «Гардиан», и писал следующее: «Двадцать лет назад мы советовали никарагуанской оппозиции: лучше всего осуществлять свою политическую повестку дня посредством участия в мирном избирательном процессе; сегодня мы даем тот же совет оппозиции в Беларуси».

По словам М.Козака, бывший никарагуанский президент Ортега никогда не оспаривал результатов выборов, которые он проиграл. Более того, «он сейчас пользуется преимуществами созданной тогда системы как ведущий кандидат на предстоящих выборах».

«Наша задача в Беларуси, как и задача других членов ОБСЕ, — помочь Беларуси в развитии избирательной системы, отвечающей международным стандартам, которым Беларусь обязалась следовать при вступлении в ОБСЕ», — подчеркивает М.Козак и добавляет, что если такова система имеет место быть, то именно белорусские избиратели, а не он или кто-либо другой, «будут решать, кому править их страной в течение нескольких следующих лет».

Что же подвигло посла США в Минске написать письмо в «Гардиан», опубликованное 25 августа? Дело в том, то еще раньше в этой газете появилось письмо члена пролукашенковской «Британской Хельсинкской группы» Марка Элмонда, который обвинял М.Козака чуть ли не во всех смертных грехах, а также сообщал, что один из бывших директоров ЦРУ дал нынешнему послу США в Минске кличку «Ласка» (это не часть белорусского "калі ласка», то есть «пожалуйста», а название животного – по-английски «weasel»). Естественно, дипломат решил опровергнуть появившиеся в серьезной британской газете измышления, затрагивающие и его лично.

Как рассказал сам посол Козак агентству «Ю.С.Ньюс», о публикации М.Элмонда он узнал от собственного сына, которому тоже небезразлична фамилия Козак. Посол США в Беларуси сказал «Ю.С.Ньюс», что до материала «Гардиан» он о себе как о «Ласке» никогда не слышал.

Тем не менее, история с «Таймс» продолжает раскручиваться, и белорусский вице-премьер, он же министр иностранных дел Михаил Хвостов сказал журналистам, что готов потребовать от М.Козака объяснений.

Агентство «Ю.С.Ньюс» выражает надежду, что данный наш материал, в отличие от сообщения 26 августа, господин Хвостов прочитает и решит не продолжать традицию неадекватного реагирования на американские заявления, начало которой было положено после обращения госсекретаря США Колина Пауэлла по случаю 10-й годовщины провозглашения независимости Беларуси.

Кстати, несмотря на неоднократные попытки, агентству «Ю.С.Ньюс» так и не удалось выяснить, какие именно новые требования со стороны Вашингтона М.Хвостов увидел в обращении К.Пауэлла.

Зато, как сообщила «Ю.С.Ньюс» сама Элис Лагнадо, в эту среду она прибудет в Минск для освещения президентских выборов. И Минск наконец узнает ответ на вопрос: «А кто такая Элис?»

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

# Перамогу трэба адстойваць

4 верасня адразу пасля паседжання Палітычны савет адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка сустрэўся з журналістамі. Палітсавет распавёў пра акцыі, арганізуемыя да прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня, а таксама ў дзень галасавання.

5 верасня давераныя асобы Уладзіміра Ганчарыка раз'едуцца па 23 буйнейшых гарадах Беларусі (Брэст, Гомель, Магілёў, Баранавічы), каб пазнаёміць выбаршчыкаў з адзіным кандыдатам і ягонай перадвыбарнай платформай. 9 верасня, услед за Уладзімірам Ганчарыкам, Палітсавет заклікаў выбаршчыкаў – прыхільнікаў адзінага кандыдата прыйсці ў 20.05 на Кастрычніцкую плошчу (да Палаца культуры прафсаюзаў, дзе месціцца штаб адзінага), каб выказаць падтрымку і чакаць вынікаў галасавання. 10 верасня Палітсавет заклікае дэмакратычную грамадскасць прыйсці да Цэнтрвыбаркама, які знаходзіцца ў Доме ўрада на плошчы Незалежнасці, каб дачакацца афіцыйных вынікаў галасавання.

Паседжанне Палітсавета праходзіла без ягонага кіраўніка Сямёна Домаша, які з 27 жніўня знаходзіцца ў першай клінічнай бальніцы Мінска. З 4 верасня ў С.Домаша пачынаецца 13-дзённы працэс рэабілітацыі, затым яшчэ месяц кіраўнік Палітсавета будзе далечваацца.

«Палітычныя партыі, якія ўваходзяць у Палітсавет пры штабе адзінага кандыдата, падтрымліваюць запрашэнне Уладзіміра Ганчарыка пасля заканчэння галасавання прыйсці на Кастрычніцкую плошчу і чакаць там абнародавання вынікаў падліку незалежнага назірання. Гэта не стратэгічны план дзеянняў; прагаласаваўшы, мінчукі і жыхары з-пад Мінска напэўна захочуць пачуць з вуснаў кіраўнікоў незалежнага назірання вынікі іхняй працы. Хутчэй за ўсё, гэтыя вынікі могуць быць абнародаваны раней, чым папярэднія вынікі Цэнтрвыбаркама. Акрамя таго, існуе небяспека блакавання інфармацыйных каналаў... І тут нічога лепшага, як пачуць пра вынікі на ўласныя вушы, няма», – падкрэсліў старшыня БНФ «Адраджэнне» Вінцук Вячорка. «Можа быць, упершыню на Беларусі будзе такая з'ява, калі прыхільнікі адзінага кандыдата – і ўвогуле кандыдата – збіраюцца ў масавым парадку каля цэнтра, дзе будзе размяшчацца штаб кандыдата на той момант, каб аказаць падтрымку, даведацца апошнюю інфармацыю. Зразумела, што ў нас выбары не будуць ні чэснымі, ні справядлівымі. Тым не менш, мы спадзяемся атрымаць ад унутранага назірання факты, якія праблемы назіраліся ў часе галасавання, у тым ліку інфармацыю пра колькасць прагаласаваўшых. На сённяшні дзень у мяне ёсць упэўненасць, што адзіны кандыдат Уладзімір Ганчарык апярэджае ўжо Лукашэнку», – дадаў кардынатар «Хартыі-97» Андрэй Саннікаў.

Лідэр незарэгістраванага Маладога Фронту Павел Севярынец паведаў пра нараду кіраўнікоў маладзёвых арганізацыяў ад 3 верасня. Паводле ягоных словаў, моладзь таксама прыйдзе 9 верасня ў 20.05 на Кастрычніцкую плошчу ў Мінску. Апроч таго, «раніцай 10-га, калі будуць параўноўвацца лічбы незалежнага назірання і ЦВК, мы збіраемся пайсці да плошчы Незалежнасці».

Адзін з кіраўнікоў стваранага руху «За новую Беларусь» палітолаг Вячаслаў Оргіш са спасылкай на сацыялагічныя даследаванні заявіў аб «устойлівай тэндэнцыі росту рэйтынгу Уладзіміра Ганчарыка». «Адначасова даследаванні сведчаць, што рост рэйтынгу Лукашэнкі не адбываецца – ён па-ранейшаму застаецца на ўзроўні 35-40 працэнтаў. З нашага аналізу вынікае, што на момант галасавання спадар Ганчарык будзе апярэджваць спадара Лукашэнку прыкладна на 5-7% – калі гэтая тэндэнцыя росту рэйтынгу захаваецца... У выпадку, калі гэтая тэндэнцыя да 9 верасня захаваецца, то відавочна, што адзіны кандыдат Ганчарык будзе выходзіць пераможцам у гэтых выбарах».

Больш за тое, В.Оргіш заявіў пра надзвычайную важнасць паралельнага падліку галасоў, які «падначаленыя спадарыні Ярмошынай трактуюць вельмі вульгарна». «Сутнасць працэдуры палягае ў наступным. Выбіраюцца найбольш тыповыя рэгіянальныя кропкі ў памеры 5%, якія характарызуюць тэндэнцыю галасавання. Адтуль пасля заканчэння падліку галасоў дасылаюцца звесткі незалежнымі назіральнікамі. Да прыкладу, старшыня камісіі агучвае вынікі галасавання, незалежны назіральнік дасылае гэтыя звесткі ў каардынацыйны цэнтр, дзе гэтыя вынікі сумуюцца. Пагрэшнасць складае не больш за 3-5%. Таму мы будзем мець магчымасць па выніках паралельнага падліку меркаваць аб тым, як праходзіла галасаванне і ці ёсць пераможцы», – сказаў Вячаслаў Оргіш.

**Рыгор БУЯН**

# Лукашенко бежит от вопросов о пропавших людях

Более 100 сотрудников спецслужб в штатском окружили плотным кольцом несколько десятков людей, пришедших к Дворцу Республики с портретами репрессированных белорусских политиков. Таким образом Лукашенко спасался от своих соотечественников, пришедших в день его встречи с избирателями, свезенными сегодня со всей республике по спискам, утвержденным на местах «вертикалью», для того, чтобы напомнить Лукашенко об ответственности за судьбы исчезнувших, умерших при загадочных обстоятельствах и брошенных в тюрьмы людях.



Командовал действия сотрудников спецслужб сам министр внутренних дел Беларуси Владимир Наумов. Он лично пытался вытолкать людей с площади в момент приезда ко дворцу Александра Лукашенко. Отказавшись подчиниться натиску министра и его подчиненных, люди вновь сели на асфальт. После того, как люди сели на асфальт и отказались покидать площадь, сотрудники спецслужб, посовещавшись, решили не разгонять акцию, так как растаскивание сидящих на земле демонстрантов явно отпугнула бы даже тех немногочисленных сторонников Лукашенко. А для того, чтобы приехавшие из регионов избиратели не смогли увидеть людей, требующих от человека, который в этот день будет им в очередной раз врать о благополучии в стране, ответа за судьбы исчезнувших, убитых и посаженных в тюрьмы оппонентов, их стали прямо из автобуса заводить через боковой вход.

Лукашенко не смог избежать встречи с требующими от него ответа людьми. Они скандировали вслед отвернувшегося и почти убегающего от них Лукашенко «Позор!».

**Хартия'97**

## В Беларуси началось досрочное голосование

Председатель ЦИК обещает наказание тем чиновникам, которые будут принуждать граждан проголосовать раньше 9 сентября.

4 сентября, за пять дней до выборов началось досрочное голосование.

Председатель Центризбиркома Лидия Ермошина заявила, что гражданину не нужно представлять какие-либо доказательства или объяснения, чтобы проголосовать досрочно. Между тем Л.Ермошина пообещала наказать чиновников, которые будут принуждать избирателей к досрочному голосованию.

«Любое голосование под принуждением невозможно. Это равные нарушения — что принуждение в день выборов, что принуждение голосовать досрочно. Это принуждение к недобровольной реализации избирательного права – принуждение, когда избирателю объявляют и говорят: «Не придешь – премии лишу. Не придешь – из общежития выселю». Будем передавать в прокуратуру и применять административную ответственность к такому администратору», — пообещала Л.Ермошина.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Зимовский грубо нарушил Избирательный кодекс

В телепрограмме «Резонанс» 2—3 сентября диктор Александр Зимовский привел данные неизвестных социологических опросов, согласно которым за его тезку Лукашенко якобы готовы голосовать свыше половины избирателей, а рейтинг Сергея Гайдукевича выше, чем у Владимира Гончарика.

Однако последняя часть статьи 46 Избирательного кодекса Беларуси гласит: «В течение последних 10 дней до выборов, референдума не допускается опубликование результатов опросов общественного мнения, связанных с выборами, референдумом, прогнозом их результатов».

Теперь диктора Зимовского либо накажут, либо – поскольку его художественный вымысел насчет процентов поддержки трех кандидатов ничего общего с социологическими опросами не имеет и к статье 46 не относится – ничего ему не сделают.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Зноў праблема «членаў»

Няведанне беларускай мовы сябрамі ўчастковай камісіі Лагойска стала падставай для адмовы ў рэгістрацыі назіральніка ад ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна».

Каардынатар незалежнага назірання па Лагойскім раёне сп-ня С.Коннава паведаміла, што сёння ў Лагойскім райвыканкаме адбываўся сход сябраў участковых камісіяў, на якім абмяркоўвалася пытанне рэгістрацыі назіральнікаў. На гэтым сходзе сябры ўчастковай выбарчай камісіі нумар 3 паднялі пытанне аб немагчымасці рэгістрацыі назіральніка ад ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна» Мікалая Куніцкага па прычыне таго, што ў вынятцы пратаколу замест зразумелага для сяброў камісіі словазлучэння «член арганізацыі» было напісана «сябра арганізацыі». Сябры выбарчай камісіі сцвярджалі, што «сябра» – гэта «друг, приятель», а не член арганізацыі, і вырашылі не дапускаць сп-ра М.Куніцкага да назірання, пра што той даведаўся, калі прыйшоў на выбарчы ўчастак.

Завязалася лінгвістычная дыскусія, і пытанне пра рэгістрацыю «сябра» Праваабарончага цэнтра «Вясна» заўтра будзе разглядацца зноў.

**Прэс-служба ГІ «Незалежнае назіранне»**

# Людзі не мусяць памыліцца

Сёння мы бачым шалёную боязь рэжыму прайграць выбары, прычым прайграць іх галосна.

Улады канфіскуюць друкарскую тэхніку і камп'ютэры, высылаюць заходніх замежных грамадзянаў, што крытыкуюць іх унутраную палітыку, запрашаюць замежнікаў з Усходу, каб яны агітавалі за Лукашэнку. І гэтыя стараюцца як могуць. Нават надрукавалі ў Маскве спецыяльную кніжку ў падтрымку Лукашэнкі пад назовам «Беларусский фронт» і завезлі яе на Беларусь, каб раздаваць у малых гарадах і мястэчках. Былі прыдуманыя і вялікія вайсковыя вучэнні, каб патраціць нашыя апошнія грошы.

Пасля буйной паразы, заваліўшы збор подпісаў за Пазьняка, нарэшце прачнулася КХП БНФ. 15 жніўня Зянон Пазьняк заклікаў сваіх прыхільнікаў прыйсці на выбары «і ў першым, і асабліва ў другім туры галасавання». Пра другі тур нам кажуць і незалежныя сацыялагічныя апытанні. Ужо зараз у Мінску рэйтынг Ганчарыка большы за рэйтынг Лукашэнкі. Але лёс Беларусі, як і раней, 9 верасня могуць вырашыць жыхары вёсак, мястэчак і малых гарадоў.

Сённяшняя ўлада вельмі баіцца другога тура і хоча любым коштам перамагчы нас ужо ў першым туры, бо ў другім ёй можа здрадзіць мясцовая наменклатура і перайсці ў лагер Ганчарыка.

Што зараз можа аб'яднаць разам усіх нас, пачынаючы ад прыхільнікаў Пазьняка да камуністаў Калякіна? Жаданне дасягнуць другога тура. Таму, шаноўныя, 9 верасня ўсе на выбары. Хочаш – галасуй за Ганчарыка ці Гайдукевіча. Галоўнае, каб твой голас не патрапіў у рукі тых, хто давёў Беларусь да жабрачай торбы. Каб вораг не скраў нашую перамогу, трэба ўсім ісці ў назіральнікі. Толькі ў Мінску ТБМ вылучыць болей чым 500 назіральнікаў на папярэдняе і асноўнае галасаванне. Актыўна ідуць у шэрагі назіральнікаў сябры ТБМ Віцебшчыны, Міншчыны, Гродзеншчыны і іншых рэгіёнаў.

Калі на кожным выбарчым участку будзе па 2–3 незалежныя назіральнікі, падтасаваць перамогу ў першым туры нашым ворагам будзе вельмі цяжка, бо ўжо не той час, і не той імпэт. У выпадку гвалтоўнага захопу ўлады дыктатарскі рэжым у цэнтры Еўропы доўга не пражыве, бо яго галоўны супраціўнік Беларушчына не зломленая і паступова набірае моц. Разам мы пераможам!

**Алег ТРУСАЎ, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

# «Павінны ісці ў народ»

Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі «павінны сёння ісці ў народ, каб абуджаць яго нацыянальную самасвядомасць», лічыць старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) Вольга Іпатава. Яна выказала задавальненне вынікамі рэспубліканскай навукова-практычнай экспедыцыі «Дарога да святыняў», якая з 29 жніўня па 2 верасня праводзілася на тэрыторыі Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей і была прысвечаная Дню беларускай пісьменнасці.

Сярод найбольш яркіх падзеяў экспедыцыі пісьменніца адзначыла сустрэчу з прыхаджанамі храма ў Слаўгарадзе, настаяцель якога Міхаіл Мядзёлка перватварыў царкву канца XVIII стагоддзя ў «сапраўды духоўнае месца». У старажытным храме, на знявечаных сценах якога засталіся размытыя фрэскі, святар сам размаляваў іканастас, а вакол царквы разбіў своеасаблівы батанічны сад..

Паводле яе словаў, духоўнаму абуджэнню служыць і прысваенне адной з вуліцаў горада Крычава імя кіраўніка сялянскага Крычаўскага паўстання 1743-44 гадоў Васіля Вашчылы.

Разам з тым, заўважыла Вольга Іпатава, падчас экспедыцыі давялося назіраць факты, якія сведчаць пра «атэістычнае бяспамяцтва і парадаксальныя супярэчнасці нашага жыцця». Так, паводле яе словаў, падчас сустрэчы з вучнямі адной са школ Крычава перад жыватворным агнём ад Труны Боскай і іконай Вострабрамскай Божай Маці пад грукат барабанаў піянеры дружыны імя Леніна пранеслі чырвоны сцяг.

**Марат ГАРАВЫ**

# Рыцарскі фэст «Сівая легенда»

З 31 жніўня па 2 верасьня ў Талачыне і Друцку (Віцебская вобласьць) праходзіў міжнародны рыцарскі фестываль сярэднявечнай культуры «Сівая легенда». Мерапрыемства было прымеркаванае да сьвяткаваньня 1000-годдзя аднаго са старажытнейшых гарадоў Беларусі — Друцку. Арганізатарам фэсту выступіла беларускае рыцарскае брацтва Ордэн Паўночнага Храму.

У рыцарскіх турнірах, бітвах з паходнямі, конкурсах касьцюмаў прымалі ўдзел рыцары з Беларусі, Карэі, Расеі, Польшчы. Асноўнай падзеяй фэсту стала бітва за Друцкі замак, якая праходзіла з выкарыстаньнем катапультаў і трэбушэта — сярэднявечнай сямімэтровай кідальнай машыны.

Майстры Ордэна за месяц да правядзеньня фэсту аднавілі старажытную браму, частку сьцяны і дзьве вежы драўлянай крэпасьці, якая некалі стаяла на вяршыні ўзгорку. Ордэн мае на мэце поўнае аднаўленьне Друцкага замку XII стагоддзя, дазвол на гэта ўжо дала мясцовая адміністрацыя. Аднаўленьне замку зойме, па падліках рыцараў, каля трох гадоў, пасьля чаго ордэн спадзяецца стварыць на яго базе беларускі гістарычны цэнтар.

Падводзячы вынікі фэсту, магістар Ордэна Паўночнага Храму брат Гадфруа дэ Манмерайль, ён жа Зьміцер Нясьцюк, зазначыў: «Заплянаваная праграма зьдзейсьненая толькі на 30%. У сцэнар умяшалася мясцовая адміністрацыя і стварыла нам вельмі шмат тэхнічных перашкодаў. Не атрымалася правесьці такія значныя мерапрыемствы, як, напрыклад, конны турнір, значна была звужаная маштабнасьць саміх выступаў. Тым ня менш, бітва за Друцкі замак, турніры, паказ касьцюмаў прайшлі выдатна.

Друцкае замчышча – выключнае месца для правядзеньня падобных фэстываляў. І зараз мы маем намер зрабіць фэст «Сівая легенда» ў Друцку штогадовым. Увогуле ў Беларусі існуе больш за 30 рыцарскіх клюбаў, больш за палову зь іх прысутнічае тут. У апошнія гады за кошт фэстаў і турніраў беларускі рыцарскі рух выйшаў на новы, даволі высокі ўзровень. Улетку гэтага году ў Грунвальдзе (Польшча) наш Ордэн Паўночнага Храму заняў першае месца па XIII стагоддзю, а Ордэн «Княжы Гуф» – першае месца па XV стагоддзю. Параўноўваючы з Эўропай, таксама можна адзначыць высокі ўзровень і магутнасьць беларускага рыцарскага руху.

Асноўнае адрозьненьне беларускага рыцарства ў тым, што нашыя ваяры самі рэканструююць касьцюмы, самі плятуць кальчугі і куюць латы, а таму не баяцца біцца. У Эўропе гэта ўсё замаўляецца і купляецца, таму і сапраўднай бойкі не атрымліваецца».

На пытаньне, што даюць падобныя мерапрыемствы простым гледачам, спадар магістар адказаў: «Па-першае, гэта як нашая, так і сусьветная гісторыя, сапраўдны напамін пра вялікую краіну Беларусь, гэта файнае відовішча. Вось тут, у Друцку, да нас увесь час падыходзілі людзі, дзякавалі, не маглі паверыць, што мы прыедзем у наступным годзе і зноў будзе такое ж вялікае сьвята. Гэта назіраецца па ўсёй Беларусі, для жыхароў раённых цэнтраў, мястэчак такія фэсты — вельмі вялікая падзея».

Рыцарскі рух на Беларусі вядзе сваё існаваньне з 1994 году. Менавіта тады ў Менску быў заснаваны першы рыцарскі ордэн — Сэрца Дракона. На той час ён аб'ядноўваў каля 30 чалавек — аматараў старажытнай гісторыі і культуры. Зараз у Беларусі больш за 30 рыцарскіх клюбаў.

Інтэрнацыянальны Ордэн Паўночнага Храму, арганізатар Друцкага фэсту, існуе з 1999 году і аб'ядноўвае больш за 200 чалавек з самых розных рыцарскіх клюбаў. Ордэн мае рэяльныя гістарычныя карані ў Беларусі, абапіраецца на нацыянальныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, зьяўляецца арганізатарам шматлікіх рыцарскіх мерапрыемстваў і ўдзельнікам міжнародных турніраў.

Наступны рыцарскі фэст адбудзецца 15 верасьня ў г. Заслаўе (Менская вобласьць)

**BARC NEWS**

# «Нёман-2001» і генералісімус(?)

Пытальнік у загалоўку адносіцца да вайсковага звання галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі Беларусі. Вышэйшае вайсковае званне ў РБ ёсць генерал-палкоўнік (тры буйныя зоркі ўздоўж пагона). Вялікія гербы на пагонах існавалі ў савецкі час і абазначалі званні генерала арміі, маршала роду войск, Маршала Савецкага Саюза, Генералісімуса.

Але апошняе меў толькі Сталін. Апроч яго, у свеце ведаюць яшчэ некалькі генералісімусаў — Аляксандра Меншыкава, Аляксандра Суворава, Чан Кайшы. Званне генералісімуса можа надавацца без сувязі з папярэднімі – за надта вялікі вайсковы талент.

Ніякіх афіцыйных звестак пра званне, якому адпавядаюць пагоны А.Лукашэнкі, не было, і застаецца думаць, што вывучка беларускай арміі, дасягненні абаронцаў радзімы даюць галоўнакамандуючаму ўсе падставы прысутнічаць на вучэннях у самым высокім вайсковым званні.

**Пятрусь ЖАЎНЯРОВІЧ**













Фота Ул. ШЛАПАКА

# Далай-лама попал в немилость Москвы

*3 сентября МИД России впервые за последние десять лет отказал далай-ламе XIV в праве пересечь российскую границу. В результате духовный лидер буддистов не сможет совершить свою поездку в Монголию.*



Далай-лама XIV бежал из Тибета в Индию в 1959 году, после того как китайские войска жестоко подавили в Лхасе демонстрацию сторонников независимости. С тех пор духовный лидер буддистов колесит по миру, совершая богослужения и читая лекции на различных форумах. В этих выступлениях далай-лама всегда говорит не столько о религии, сколько о политике. Он часто повторяет, что перспективы буддизма напрямую зависят от восстановления государственности Тибета. Разумеется, это не может не раздражать китайское руководство, которое каждый визит далай-ламы в какую-либо страну рассматривает как недружелюбный жест со стороны властей этого государства.

Монголию далай-лама должен был посетить в этом месяце. И посетил бы, но в Улан-Батор можно попасть только тремя путями – через территорию либо Китая, либо России, либо Казахстана. Китай далай-ламе по понятным причинам не подходит, а воздушные рейсы из Казахстана в Монголию в этом году отменили. Россия осталась единственным коридором. Поэтому далай-лама и обратился за транзитной визой в российский МИД.

Российские дипломаты отказали, хотя прекрасно понимали, что перекрывают буддистскому лидеру последний путь.

Примечательно при этом, что информация об отказе в выдаче визы пришла по иным каналам, не из МИД РФ – там вообще отказались подтвердить или опровергнуть факт невыдачи визы далай-ламе. Хотя сотрудница департамента невольно проговорилась в том смысле, что это так: «Мы сейчас собираем официальную информацию и готовим заявление, как, что и почему отказано». За комментариями противоположной стороны «Газета.ru» обратилась в Тибетский центр культуры и информации – это своего рода посольство тибетского правительства в изгнании.

Естественно, в центре считают, что Россия решила не пропускать далай-ламу, чтобы не портить отношения с Китаем.

«Другой причины быть не может», – грустно сказал корреспонденту «Газеты.ru» руководитель Тибетского центра Нгаванг Нгерег, оговорившись при этом, что никаких негативных чувств к российским дипломатам он лично не испытывает. «Мы входим в положение российского государства, которому необходимо поддерживать хорошие отношения с Китаем», – пояснил господин Нгерег. В общем, московские тибетцы не будут пикетировать здание на Смоленской площади или еще каким-то образом выражать свой протест. Как выразился Нгаванг Нгерег, «буддисты – люди спокойные».

К тому же у тибетцев уже был повод поскандалить. Дело в том, что далай-лама должен был совершить в этом году визит и в Россию. Его ждали в августе. Под приглашением подписались руководители трех республик, в которых живет много буддистов, – Бурятии, Тувы и Калмыкии. Но затем Муртаза Рахимов и Шериг-оол Ооржак отозвали свои подписи. Это случилось как раз накануне визита в Москву руководителя Китая Цзянь Цземиня. Упорствовал только калмыцкий президент Кирсан Илюмжинов. В интервью радио «Свобода» он заявил, что обязательно привезет к себе далай-ламу второй раз (тот уже бывал в Калмыкии в 1992 году), чего бы ему это ни стоило.

**Артем ВЕРНИДУБ**

# Футбол и СОБР

По важности и ответственности для нашей сборной футбольный матч Беларусь–Украина, который состоялся 1 сентября, превосходил все предыдущие игры. Все любители футбола ждали этой игры с нетерпением. Игра получилась неудачной для нашей команды. Но страсти бушевали не только на футбольном поле.

Милиция была изначально готова к тому, что часть болельщиков пожелает выделиться из официальной красно-зеленой массы (снабженной флажками, флагами, шарфами, майками). Поэтому молодежь, одетую в красные или белые майки, без разговоров и объяснений не пускали на трибуны, а некоторым просто рвали билеты.

Несмотря на это, в 18-ом секторе с началом матча между нескольких рядов молодых людей, одетых в белые майки, появились два ряда красных маек – так одновременно со свистком о начале матча двести активистов движения ЗУБР, сняв верхнюю одежду, образовали бело-красно-белую полосу.

Сектор сразу же был оцеплен ОМОНом и СОБРом. По личному приказу Лукашенко, сидевшего напротив, молодежь попытались вывести с трибуны, но «зубры», взявшись друг за друга, не допустили этого и продержались весь первый тайм. В перерыве собровцы стали выхватывать ребят по одному. Чтобы избежать дальнейших задержаний и столкновений, «зубры» приняли решение покинуть трибуну. Желая выслужиться и удовлетворить свои агрессивные наклонности, собровцы схватили парня с девушкой и потащили их по ступенькам. Кошелек, в котором было USD 100, выпавший у девушки из порванной куртки, сразу же подобрал один из сотрудников милиции. Когда же ребята стали спускаться с трибуны, несколько собровцев толкали их в спину и ставили подножки, пытаясь устроить давку, но «зубры» поддерживали друг друга и устояли. После этого «зубры» в плотном кольце омоновцев и собровцев вышли со стадиона, не давая друг друга в обиду. Как только «зубры» покинули стадион, оттуда выехали восемь КаМАЗов СОБРа, по всей видимости, привезенных туда исключительно для разгона «зубров».

Было задержано трое молодых людей, их затащили в автобус, где в течение двадцати минут избивали.

Майор и полковник милиции, руководившие расправой, побоялись представиться. Видимо, то, что они выполняли приказ своего повелителя, уже не внушает им уверенности в безнаказанности. Но и попытка трусливо спрятаться за свой замаранный мундир не принесет плодов – около двухсот активистов ЗУБРа запомнили их перекошенные от страха лица.

Поражение нашей сборной со счетом 0:2 закономерно – команда не может играть достойно, когда важнейшую игру пытаются превратить в предвыборное шоу, а болельщиков команды избивают.

**Алесь БЕРКУТ**



Члены ўрада назіраюць матч і ...



... як міліцыя выкідае балельшчыкаў з 18-га сектара

# Дрэнная прыкмета

Не мной заўважана. Амаль усе спартовыя балельшчыкі ведаюць, што калі на футбольным альбо на хакейным матчы прысутнічае Лукашэнка – беларуская каманда абавязкова атрымае паразу. Было, кажуць, аднаго разу выключэнне, калі футбалісты і пад яго пільным наглядам згулялі не вельмі кепска, ды выбіліся на нічыю. Але выключэнне толькі пацвердзіла правіла. Пра хакей увогуле маўчу: з такім трэскам лупасяць нашых у прысутнасці першай асобы, што хоць ты тыя месцы, дзе начальства сядзіць, цвікамі замалаці.

Гэтым разам, калі ў рамках адборачнай гульні чэмпіянату свету да нас прыехала нацыянальная футбольная каманда Украіны, наш балельшчык, здаецца, быў на ўзлёце. Верыў, што будзе перамога. Білетаў было не купіць, бо заміж сапраўднымі балельшчыкамі на стадыён на халяву імкнулася ўлезці плойма крывава-зялёных лупатых і раззяватых лукамольцаў, каторыя ў футболе — ні пяты, ні рыла, але ўжо маюць партбілеты.

Увесь горад жыў футболам. У цэнтральнай кнігарні сталіцы маладыя прадаўшчыхі ўзбэндзілі сабе на галовы гэтакіх жа колераў трубчастыя шапкі з халявамі, падобныя да тых, у якіх хадзілі героі «Яўгена Анегіна», толькі аздобленыя беларускай выцінанкай і футбольным мячом. Атрымалася нешта абы-што. Пярэстыя цыліндры з парога кідаліся пакупнікам у вочы, а прадаўшчыхі выглядалі дунькамі з нейкімі ботамі на галаве. Паляпшалі трохі гэтую кампазіцыю ад рукі намаляваныя плакаты: «Футбалісты, мы вас...», дзе замест слова «любім» было намалявана чырвонае і трапяткое дзявочае сэрца. Можна было нават знянацку падумаць, што футбалісты чытаюць кніжкі і заходзяць у кнігарні.

Ад самай раніцы ў суботу па вуліцах цягаліся туды-сюды хлопцы і дзяўчаты з чырвона-белымі шалікамі «Беларусь». А пятай гадзіне прыехала жменька жоўценькіх украінцаў. Многія людзі ў гэты дзень выпілі піва і пакаштавалі беляшоў. Мітусіліся міліцыянты. Былі некаторыя ў нязвыклых чырвоных шапках, ды з нейкімі налепкамі абы-дзе. Другія, звычайныя, у ягуарыстай вопратцы, змагаліся з нацыянальнай сімволікай і тутэйшай моладдзю. Кідаліся на кожнае беларускае слова, нібыта яны не беларусы, а егіпецкія акупанты. Словам, пералічыць усё, што рабілася для перамогі нашай зборнай над украінцамі, проста немагчыма. Для гэтага патрэбен эпічны талент Гамера. Многа сілаў, дарэчы, палажыла на размеркаванне білетаў і гарадское начальства, за што яго яшчэ доўга будуць клясці балельшчыкі.

І вось табе на: усе бясконцыя высілкі, усе намаганні і летуценні, усё сапсаваў Лукашэнка. Прыехаў, сеў і пазірае. Як было перамагчы тым бедным футбалістам? Падумай, каторы год ён вось так пазірае на Беларусь. Дрэнная прыкмета, што зробіш...

**Аляксандар ДУБРАВІН**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Турыстычная навука для працякоў

## *Калі будзеш юрыдычна дасведчаны – не патрапіш у пастку*

*Гэтым летам я раптоўна ўспомніла, што нідзе акрамя Беларусі не была. (Украіна і Расія не лічацца, бо калі я там была, усё гэта называлася «Саюзам ССР» і істотных адрозненняў ад Беларусі не мелі.) Захацелася скарыстаць спякотны месяц у турысцкіх мэтах. А паколькі я інтурыст з нулявым вопытам, то, паддаўшыся логіцы (як цяпер разумею, для інтурыста не выгаднай), падалася ў турагенцтва.*

Нельга сказаць, каб інтуіцыя мяне не папярэджвала. Падказвала мне штосьці, што фірма, якая месціцца на «мансардзе» 5-павярховага жылога дома, мае не самае лепшае становішча справаў. У душы змагалася ашчада да грошай (там абяцалі ніжэйшыя за іншых кошты) і недавер да надпісу, зробленага проста на сцяне гуашшу «Турагенцтва «Солна». Трэба было павярнуць з гэтага пад'езда і пашукаць фірму, рэкламу якой на лесвічнай пляцоўцы не пішуць. Але што зроблена, тое зроблена, і я пакінула свой пашпарт на гэтым гарышчы, разлічваючы праз нейкі час атрымаць візу ў адну з «капіталістычных краінаў».

Абрала я тую краіну не выпадкова. Паводле аб'ектыўных працэсаў, якія адбываюцца зараз у маёй краіне і ў свеце, там зараз жыве і працуе досыць шмат маіх сяброў. Адведаць іх і паглядзець старажытныя муры той краіны спадзявалася я, калі падала пашпарт у турфірму. Але ўжо назаўтра ад ружовых пражэктаў павеяла праблемнай будзённасцю: трэба было дакупіць валюты для аплаты тых самых турыстычных расходаў. Але, як ведае кожны, хто трымаў у руках «зялёныя», без пашпарта іх купіць нельга. Нават мізэрныя 20 баксаў у абменніку вам не прададуць без «ксівы». Можна, канечне, набыць тых долараў-марак з рук, але нарвацца на махляра ці пераапранутага працаўніка «органаў» таксама не вялікая радасць. Па адным з законаў Мэрфі лішняй валюты не аказалася і ў маіх знаёмых. Таму мне прыйшлося тэрмінова тэлефанаваць у турфірму.

Па тэлефанаванні я са здзіўленнем даведалася, што каб узяць на некалькі гадзінаў мой уласны пашпарт, я павінна пакінуць фірме грашовы залог. Нічога такога пры дамове мне не казалі, і пакідаць нават невялікую суму канторы, якая не падпісала са мной афіцыйнай дамовы, мне не хацелася. Тым не менш, я сказала «ОК» і паабяцала прыйсці праз нейкую гадзіну. Акрамя таго, я хацела перанесці дату адкрыцця візы.

Прыехаўшы, я пачула, што «на жаль, пашпарт ужо завезены», а дату адкрыцця візы можна і потым змяніць. Параілі мне набыць валюту ў знаёмых або даць грошы ўласна менеджэру, што вёў маё афармленне, каб купіў. Апошняя прапанова не спадабалася мне яшчэ больш, чым поўнае раўнадушша да майго клопату пра білеты, кошты, агентаў. Іх мне, хоць і абяцалі, не прапанавалі. Далі адзін тэлефон, прадставіўшы як «надзейную жанчыну, якая працуе з усімі перавозчыкамі» і якая бярэ не вельмі вялікія камісійныя. Толькі праўраўшая мая незадаволенасць вытрасла з фірмы яшчэ два тэлефоны.

Відаць, не лёс мне было паехаць да еўрапейскіх замкаў з гэтай фірмай: раптоўна захварэў адзін мой супрацоўнік, іншыя былі ў летнім адпачынку, і ўрэшце ў выніку гэтага і іншых абставінаў стала зразумела, што на некалькі дзён у Еўропу мяне не адпусцяць... Таму ў дзень падачы дакументаў я прыйшла іх ці забраць, ці перанесці на пазнейшы тэрмін. І тут, за гадзіну да пасольства, «мой» менеджэр мне кажа, што перанесці дату нельга і я павінна(!) узяць візу на тую дату, якая была спачатку! Мне, канечне, заставалася толькі забраць свае дакументы.

Але не тут было! Мне абвясцілі, што калі я хачу пабачыць свой пашпарт, я мушу заплаціць пэўную суму, быццам бы, на кампенсацыю расходаў. Гэта была ўжо трэцяя нечаканая сума. Бо калі я выбрала гэтае агенцтва, то адным з рашаючых фактараў было тое, што «ў выпадку адмовы вы нічога не губляеце». Праўда, пры першым візіце патлумачылі, што 20 марак я пасольству ўсё ж буду павінна. А пасля было дададзена, што калі мне адмовяць у візе «па маёй віне», то з мяне яшчэ 20, агенцтву на залечванне маральных затратаў.

Ёсць рэчы, у якіх я імкнуся быць прынцыповай. Справядлівасць і сумленнасць у заключэнні пагадненняў якраз з гэтай галіны. І таму я рашыла ні пры якіх абставінах не паддавацца на новыя «развадзілкі», пад якія спрактыкаваныя супрацоўніцы фірмы мяне падводзілі.

І ўжо проста каля візавага аддзела мая рашучасць парваць адносіны з падазронай фірмай атрымала дадатковы аргумент. Мяне, навічка турпаездак, і дзяўчыну, якая, скончыўшы двое вадзіцельскіх курсаў, руліць у дрэвы і баіцца машын, запісалі ў групу да тых, хто едзе ў Еўропу па ...аўтамабіль! Тое, што ў мяне няма і не было правоў, не пераканала «Солну» ў няпэўнасці такой заяўкі. Як і тое, што на субяседванні я б сумленна прызналася, што еду да сяброў. А паколькі мяняць мэту паездкі нельга, то мая першая ж вандроўка ў свет скончылася б парушэннем шэнгенскага рэжыму...

Хай застанецца толькі маім горкім вопытам тое, як я з пагрозамі міліцыяй, таварыствам аховы правоў спажыўца, уласнымі сувязямі і іншай грамавой аргументацыяй змагла забраць свой сіняскуры пашпарт, які мне ультыматыўна было прапанавана выкупіць. Я нават згодная, каб і ў мяне не было такога вопыту. Але мне-такі ўдалося адмовіцца і ад навязваемых паслугаў, і ад здзелкі. Ну, маю я, нарэшце, права адмовіцца нават без маіх важкіх прычынаў! Захварэць, перадумаць. Віза ж яшчэ не атрыманая, а заплаціць больш сотні долараў проста для таго, каб не засмуціць менеджэра фірмы, я пакуль яшчэ не ў стане.

Адным словам, непрыемна ўсё гэта. І ў чарговы раз я вымушаная была падумаць, што хоць фірмы цяпер і прыватныя, выжылі ў нашых умовах у асноўным саўкаватыя. Тыя, каторыя зрабілі стаўку не на класнасць абслугоўвання, сэрвіс і «любы ваш капрыз», а на грошы любым шляхам. Адно суцяшае: не ўсе такія. І таму калі пройдзе аскоміна ад знаёмства з недакладнай працай, непадмацаванай ні дакументальнымі абавязацельствамі, ні квіткамі аб аплаце, ні рэальнымі гарантыямі, я зноў паспрабую сабрацца ў госці. Шкада толькі лета скончылася...

**Ульрыка ГАТАЛЬСКАЯ**

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Змiцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@ircx.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1756 Нумар падпісаны ў друк 4/09/2001 (15:00) Наклад – 9.470